©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 №24 (1), 2016

Рымантас Мікніс

# Першая сусветная вайна і адбудова дзяржаўнасці гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі) у канцэпцыі Міхала Ромэра

## Уводзіны

Як вядома, Першая сусветная вайна стала выразнай мяжой *сучаснасці,* бо менавіта ў выніку вайны ў значнай ступені захісталіся алігархічныя і імперыялістычныя структуры. З іншага боку, Першая сусветная вайна дала моцны імпульс нацыянальна-вызваленчым рухам. Можна нават сцвярджаць, што вайна праходзіла пад лозунгам вызвалення нацый, хаця нацыянальны фактар часта спалучаўся з рознымі спекуляцыямі: як правіла, варагуючыя блокі дзяржаў аб'яўлялі, што вызваляюць народы варожага лагера. Але пасля таго, як прэзідэнт ЗША Вудра Уілсан назваў прынцып нацыі неад'емным фундаментам будучага міру, нацыянальныя рухі сталі імкнуцца да стварэння суверэнных дзяржаў. У выніку вайны на месцы імперыі Габсбургаў, Асманскай імперыі і імперыі Раманавых паўстаў шэраг нацыянальных дзяржаў, сярод якіх былі Польшча і Літва. Былі спробы дасягнуць самастойнасці Беларусі, але непаспяховыя. Цікава, што такая спроба па пэўным этапе была звязана з ідэяй сумеснай дзяржаўнасці Літвы і Беларусі, якая паўстала б у працяг традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. З 1905 года такую ідэю ў сваіх праектах выкарыстоўвалі актывісты як літоўскага, так і беларускага нацыянальнага руху. Галоўным чынам гэтыя тэрміны "выкарыстоўвалі" ці "эксплуатавалі", бо, як вядома, у рэальнай палітыцы этнічныя і этнаграфічныя крытэрыі дамінавалі. Тым не менш падчас Першай сусветнай вайны яшчэ існавалі праекты, якія абапіраліся на ідэі адбудовы гістарычнай дзяржаўнасці, пра адзін з іх пойдзе размова ў гэтым артыкуле.

Мы маем на ўвазе ідэю дзяржаўнасці гістарычнай Літвы, прапанаваную выбітным юрыстам, палітыкам, слынным дзеячам як літоўскай, так і польскай культуры – Міхалам Ромэрам. У артыкуле каротка прадстаўлены светапоглядныя асновы, палітычныя акалічнасці, галоўныя рысы гэтай ідэі, а таксама прычыны яе няўдачы.

## Агульная характарыстыка: аўтар і рысы праекта

Міхал Ромэр (1880–1945) быў адным са шматлікіх прадстаўнікоў моўна і культурна спаланізаванай шляхты былога Вялікага Княства Літоўскага, якая прытрымлівалася прынцыпу дзяржаўнай і культурнай адрознасці былога ВКЛ ад Польскага Каралеўства, захавала самасвядомасць грамадзян ВКЛ, а таксама лічыла сябе літвінамі ў гістарычным і палітычным значэнні слова.

Ромэр усведамляў сябе грамадзянінам гістарычнай Літвы, якая на пачатку XX стагоддзя ўключала Гродзенскую, Віленскую, Ковенскую, Мінскую, Магілёўскую і Віцебскую губерні. На фоне нарастаючай хвалі польскага і літоўскага нацыяналізму, якая магла падзяліць гэты край на асобныя часткі, узбудзіць варожасць паміж народамі, распаліць з-за спрэчных тэрыторый трывалы агонь нязгоды, Ромэр намагаўся супрацьпаставіць знішчальным сілам адмысловую “краёвую” ідэалогію. У 1906 годзе ён засноўвае выданне “Gazeta Wileńska”, накіраванае на пашырэнне грамадзянскай свядомасці і звязаных з ёй ідэй. У вострых дыскусіях і спрэчках з польскімі дэмакратычнымі дзеячамі Вільні – Тадэушам Урублеўскім, Людвікам і Вітольдам Абрамовічамі, Браніславам Крыжаноўскім, Зыгмунтам Нагродскім і іншымі – фармулюе асноўныя рысы ідэалогіі. Яе сутнасць заключаецца ў поглядзе на гістарычную Літву як цэласны край, заснаваны на гістарычнай, тэрытарыяльнай, эканамічнай і культурнай агульнасці.[1]

Краёвасць была акрэслена як выключна дэмакратычная з’ява, не звязаная ні з адной нацыяй краю (літоўцамі, палякамі, габрэямі і беларусамі). Гэта значыць, ідэалогія антынацыяналістычная, заснаваная на прынцыпе агульнага грамадзянства. Разумеючы былое ВКЛ як айчыну некалькіх нацый і бачачы небяспеку іх цывілізаванага раздзялення па прычыне непазбежных тэрытарыяльных і нацыянальных канфліктаў, М. Ромэр выступаў супраць перавагі інтарэсаў асобных нацый над агульнымі інтарэсамі краю, дэкляраваў неабходнасць роўнай працы народаў гістарычнай Літвы для вольнага гаспадарчага, культурнага і нацыянальнага развіцця (Römer, Dziennik: t.2: 89, 227, 489; t.3: 62, 66). Магчымае спалучэнне нацыянальных культурных патрэб і памкненняў народаў краю звязваў ён з перавагай прынцыпу грамадзянства над прынцыпам нацыі і дэмакратызацыяй – гэта значыць развіццём нацыянальнай свядомасці простага народу, а таксама грамадзянскай супольнасці.

Апіраючыся на вышэй пазначаныя ідэі, у 1913–1915 гадах М. Ромэр сфармуляваў ідэю дзяржаўнасці гістарычнай Літвы. Сутнасць ідэі – стварэнне федэрацыі Польшчы і гістарычнай Літвы на аснове з’яднання двух аўтаномных дэмакратычных дзяржаў, што мусіла забяспечыць

[1] Römer, F.138–2228, l.53, 64, 88, 93; .T.2 F.138–2229, l.42,49, 50, 55, 89, 105, 227, 252, 409, 412, 465–470; T.3, F. 138–2230, l.62, 65, 66, 89, 90, 262, 305, 323, 324.

захаванне абедзвюх у складзенай геапалітычнай сітуацыі і, перш за ўсё, вызваленне ад палітычнага дамінавання Расіі. Апора рабілася на “ягелонскую ідэю”. У выніку прадбачылася “задзіночанне” даўняй тэрыторыі Рэчы Паспалітай “ад мора да мора” і пераўтварэнне ў сучасны саюз незалежных нацыянальных дзяржаў (Römer, t.4: 334, 347). Такім чынам, у канцэпцыі М. Ромэра вялася размова пра спалучэнне дзвюх ці больш этнапалітычных адзінак пад назвай Польшча ці Рэч Паспалітая. Не агучанай нацыянал-дэмакратамі імперыялістычнай нацыянальнай “Вялікай Польшчы”, але стварэнне сучасных дэмакратычных, блізкіх да сябе з культурнага і палітычнага пункту гледжання дзяржаў і іх саюзу, а таксама абарона заходняй культуры ў рэгіёне, дзе да гэтага адбывалася экспансія візантыйскай культуры.

Трэба адзначыць, што канцэпцыя М. Ромера радыкальна адрознівалася ад сфармаваных у 1915–1922 гадах і шырока распаўсюджаных так званых “федэральных” праектаў. Апошнія прызнавалі палітычную цэласнасць тэрыторыі гістарычнай Літвы толькі пасля аднаўлення яе сувязі з Польшчай, пры гэтым Літва разумелася як дзяржава, утвораная з асобных кантонаў ці аўтаномных адзінак (Bardach, 1988: 271–273).Такім чынам, апісвалася федэрацыя ў федэрацыі, характар якой быў цалкам адрозны ад прадстаўленай М. Ромерам. Планы “федэралістаў” пазначалі выразнае культурнае і палітычнае дамінаванне ў новым альянсе Польшчы, у той час як Ромэр пазбягаў гэтага, прапануючы далучыць да дзяржаўнага саюзу Украіну і Латвію (Römeris, 1991: 464–465).

Практыка палітычнай дзейнасці ў 1913–1915 гадах пераканала, што сітуацыя ў Вільні не дазволіць рэалізаваць такую канцэпцыю. Не было арганізацыйных структур, здольных зкансалідаваць для такой задачы дэмакратычныя плыні літоўцаў, беларусаў, мясцовых палякаў. Для гэтага таксама ў 1915 годзе Ромер накіраваўся ў Пётркоў[2] і далучыўся да арганізаваных Пілсудскім вайсковых аддзелаў. Прымаючы ўдзел у вайсковых аперацыях, а пазней працуючы ў прэсавым бюро Вышэйшага нацыянальнага камітэта (ВНК),[3] спрабаваў, хоць і не паспяхова, уцягнуць кіраўніцтва ВНК у палітызацыю літоўскага пытання і звязаць яго з незалежнасцю Польшчы, а праз інтэрнацыяналізацыю праблемы рэалізаваць уласную канцэпцыю.

## Дакладныя запіскі: пошук новага значэння канцэпцыі і магчымасці яе рэалізацыі ў выпадку змены палітычных і геапалітычных акалічнасцяў

Праходзячы службу ў легіёнах, М. Ромэр не выпаў з палітычнага жыцця і надалей агучваў асноўныя прынцыпы ўласнай канцэпцыі дзяржаўнасці Літвы, шукаў саюзнікаў

2 У цяперашні час Пётркоў Трыбунальскі (Piotrków Trybunalski), горад у цэнтральнай Польшчы. – *Заўвага рэдактара.*

3 Naczelny Komitet Narodowy (NKN).

для яе рэалізацыі. Напісаў на гэты конт некалькі артыкулаў для газеты "Wiadomości Polskie", мэтай якіх было пашырэнне ідэі легіёнаў.[4] Газету выдаваў Вайсковы дэпартамент Вышэйшага нацыянальнага камітэта (Solak, 1994: 130; L.A. 1927: 3), заснаваны ў Кракаве па ініцыятыве польскай парламенцкай групы ў жніўні 1914 года. Менавіта на службу ў гэты дэпартамент, кіраўніком якога быў падпалкоўнік Уладзіслаў Сікорскі, быў скіраваны Міхал Ромэр. Улічваючы стан здароўя (заўважана ягоная блізарукасць), ён быў накіраваны ў Прэсавае бюро ВНК.

На той час кіраўніком Бюро быў Станіслаў Кот, які цікавіўся настроямі і палітычнымі плынямі ў Літве (Römer, Germanofilstwo…: 381–396). Таму не выпадкова ў 1915 годзе ў нумары 38/39 часопіса/афіцыйнага органа надрукаваны два артыкулы М. Ромэра пра Літву: "Літва перад абліччам вайны" і "Вайна і літоўцы".[5] Гэта быў добры выпадак для чарговай спробы зацікавіць і забяспечыць падтрымку ідэяй незалежнасці Літвы з боку польскіх палітыкаў. Перш за ўсё гэта было імкненне прасунуць на міжнародны ўзровень пытанне незалежнасці Літвы ў спалучэнні з польскім пытаннем. Хаця праекты дзяржаўнасці Польшчы ўжо чакалі вырашэння ў кантэксце агульнаеўрапейскай палітыкі і ніхто не сумняваўся, што яно адбудзецца пры падсумаванні вынікаў вайны.

М. Ромер хутка скарыстаўся гэтай магчымасцю. Акрамя ўзгаданых вышэй артыкулаў гэтым жа летам ён таемна перадаў кіраўніцтву ВНК дзве вялікія дакладныя запіскі.[6] У запісцы "Германафілія Літвы", напісанай 30 ліпеня, прадстаўляліся палітычныя арыентацыі літоўскіх палякаў і беларусаў, якія жылі ў гістарычнай Літве, пранямецкія погляды літоўскіх палітычных дзеячаў, а таксама каротка апісваліся матывы такой арыентацыі і яе аргументы (Litwa wobec wojny, 1970: 60–127). Ромэр імкнуўся азнаёміць палітычных лідараў Польшчы з лабірынтамі палітычнага жыцця Літвы і падрыхтаваць глебу для сваіх ідэй. Аднаčасова, 12 жніўня, М. Ромэр напісаў у ВНК другую таемную запіску і назваў яе, як першы артыкул, – "Літва перад абліччам вайны", дзе развіў думкі, прадстаўленыя ў ранейшых тэкстах, ахарактарызаваў геапалітычную і ўнутраную сітуацыю ў гістарычнай Літве (Літве і Беларусі), прааналізаваў магчымыя палітычныя перспектывы

4 Пачала выдавацца ў снежні 1914 года ў Цешыне (Cieszyn), з сакавіка з'явілася ў Пётркаве.

5 Артыкулы датаваныя 1 і 6 жніўня.

6 Першая запіска "Германафільства Літвы", як і іншыя дакументы аўтарства М. Ромера, такія як, напрыклад, адрасаваныя да палкоўніка Сікорскага "Нататкі ў справе стварэння літоўскай роты ў польскіх легіёнах" ад 25 сакавіка 1916 года, а таксама ад 8 траўня (па новым стылі 31 траўня) таго ж года "Запіска пра літоўскія справы", не былі адшуканы. Іх знайшоў кракаўскі гісторык Збігнеў Соляк у Дзяржаўным архіве Кракава. Захоўваліся яны ў зборніку актаў ВНК пад агульнай назвай: "Літва. Знешняя сітуацыя і стаўленне да Польшчы ў 1915–1918" (Sygnatura NKN-142). Названыя дакументы з каментарамі Соляка былі апублікаваны ў выданні: "Справа літоўская і справа польская" (Legionowe inicjatywy, 1999: 136–168).

краю і прадставіў рэкамендацыі ВНК, а таксама – па яго словах – дзеючым суддзям камітэта, кіраўнікам *"будучай арганізацыі вышэйшага ўзроўню"* (Römer, Notatki...: 122–125).

На думку Ромэра, пры вырашэнні праблемы незалежнасці Польшчы належыць браць пад увагу пытанне незалежнасці Літвы, і пра гэта ўлады Польшчы мусяць мець прынцыповую і вырашаную пазіцыю. На думку М. Ромэра, калі Польшча імкнецца быць дзейсным суб'ектам вызвалення, яна мусіць праявіць ініцыятыву і першая вызначыць сваё стаўленне, а не чакаць, пакуль гэта зробіць Літва. Існуюць два альтэрнатыўныя стаўленні ў такой сітуацыі – адрадзіць "ягелонскую ідэю", сутнасць якой – повязь вольнай Польшчы з вольнай Літвой, альбо імкнуцца да польскага інкарпарацыйнага імперыялізму. Міхал Ромэр без сумневу падтрымліваў першае, падкрэсліваючы, што "ягелонская ідэя" найбольш адпавядае гістарычнай праўдзе, глыбокім традыцыям стасункаў паміж Літвой і Польшчай і імкненню народаў Літвы да вольнасці. На яго думку, было важным, што гэтая ідэя, а таксама планы яе рэалізацыі нарадзіліся ў Вільні (Römer, Notatki...: 122–125).

Ромэр імкнуўся, каб кіраўніцтва ВКН спрычынілася да палітызацыі літоўскага пытання, спалучыла яго з праблемай незалежнасці Польшчы і рэалізацыяй канцэпцыі дзяржаўнасці Літвы, ён падкрэсліваў неабходнасць гэтага для Польшчы, яе незалежнасці, а таксама геапалітычнай стабільнасці цэлага рэгіёна. Аднак Ромэр не дачакаўся адказу ад ВНК і 25 сакавіка 1916 года напісаў праект стварэння пры легіёнах Ю. Пілсудскага літоўскага аддзела, які назваў "Нататкі пра справу стварэння літоўскай роты (kompanii) у польскіх легіёнах". У ім зноў акрэсліў галоўныя прынцыпы дзяржаўнасці гістарычнай Літвы. Ідэю Ягелонскай уніі прадставіў як ідэальную форму саюзу ў імкненні Літвы да свабоды, інструмент для адрыву Літвы ад Расіі і абарону ад анексіі немцамі. Падкрэслівалася, што для рэалізацыі ідэі не дастаткова толькі высілкаў яе прыхільнікаў у Літве і Польшчы, шмат будзе залежаць ад міжнароднай грамадскай думкі. Для гэтага неабходна спалучаць пытанне незалежнасці Польшчы, якое стала праблемай міжнароднага значэння, з пытаннем незалежнасці Літвы, якое не мае такога істотнага статусу, і таксама зрабіць яго міжнародным (Römer, Notatki...: 685–686). У скрайнім выпадку, пры адсутнасці іншых магчымасцяў, М. Ромэр нават пагаджаўся на анексію Літвы Польшчай: *"...Таму на сённяшні момант у прапановах цалкам падтрымліваем фармаванне саюзу літоўскіх зямель з адроджанай Польшчай і згодныя на простую анексію Літвы на карысць польскай дзяржавы, калі не будзе іншай магчымасці"* (Römer, Notatki...: 687).

Прадстаўляючы прапановы рэалізацыі ідэі, апіраючыся на ўласны горкі досвед і назіранні, М. Ромэр канстатаваў, што немагчыма праводзіць палітычны дыялог выключна з дапамогай палітычных сіл Польшчы і Літвы і дасягнуць палітычнага паразумення, абапіраючыся на супольную палітычную працу. На ягоную думку, так складася, бо:

1) непасрэдны кантакт ВНК з Літвой немагчымы, так як у апошняй няма адпаведнага органа; 2) Варшава па палітычных поглядах з'яўляецца вельмі разнароднай, нават лагер прыхільнікаў незалежнасці падзелены на асобныя палітычныя групы, партыйкі са сваімі палітычнымі амбіцыямі, і таму цяжка сфармуляваць супольныя пазіцыі для супрацоўніцтва з Літвой; 3) уплывовыя палітычныя аб'яднанні – Саюз патрыётаў (Związek Patriotów), Ліга польскай дзяржаўнасці (Liga Państwowości Polskiej) і Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК)[7] – маглі б падрыхтаваць для міжнародных інстытуцый супольную дэкларацыю па праблемах спалучэння дзяржаўнасці Літвы і Польшчы. Хаця няма сілы, якая б магла напісаць такую заяву ад імя Літвы (Römer, Notatki...: 688, 690–691).

М. Ромэр ў тым жа дакуменце сцвярджае, што засталася адна дарога – практычныя дзеянні. *"Не палітычнымі дэкларацыямі да польскіх палітычных груп, але толькі шляхам спалучэння сваёй дзейнасці з дзейнасцю легіёнаў Літва можа прадэманстраваць волю спалучэння літоўскай справы з польскай"* (Römer, Notatki...: 692). М. Ромэр прадставіў праект падпалкоўніку У. Сікорскаму (W. Sikorskiemu), пазнаёміў з ім каменданта Польскай вайсковай арганізацыі Тадэуша Каспжыцкага, той жа ў прынцыпе падтрымаў ідэю праекта і прадставіў яго на разгляд Ю. Пілсудскаму. Ю. Пілсудскі пасля другой размовы з М. Ромэрам адхіліў праект 2 траўня, паколькі легіёны ўжо не былі прыладай Аўстрыі і не мелі перспектывы ў палітыцы, якую рэалізоўваў Ю. Пілсудскі (Ochman 1968: 66). На думку Ю. Пілсудскага, нават у выпадку, калі б "справядлівая" Аўстрыя ў якой-небудзь форме падтрымала дзяржаўнасць Польшчы, то для Літвы не зрабіла б нечага падобнага (Römer, Memoryał…: 717). Гэта значыла, што палітычная сітуацыя змянілася не на карысць канцэпцыі М. Ромэра. Напрыканцы 1915 – пачатку 1916 года погляды кіраўніцтва ВНК, якое знаходзілася ў Кракаве, і палітычных дзеячаў, якія яму сімпатызавалі, – эндэкі, ППС і іншыя палітычныя партыі – сталі вельмі падобнымі на праграму незалежнасці Польшчы. Афармлялася тэндэнцыя экспансіі Польшчы на ўсход. Нават Міхал Сакольніцкі (Michał Sokolnicki), блізка звязаны з Ю. Пілсудскім, высоўваў планы далучэння да Польшчы каталіцкай часткі Беларусі разам з Вільняй. Ён таксама лічыў, што літоўцаў нельга аддаць немцам (Römer, Dziennik, t. 11: 18).

Іншыя дзеячы з атачэння Ю. Пілсудскага (Тытус Філіповіч, Генрых Тэненбаум, Тадэвуш Гружэўскі, Медард Даўнаровіч, Станіслаў Тугут, Марыян Лемпіцкі)[8] у лютым 1916 года арганізавалі "Дэкларацыю ста", у праекце якой ішла размова пра адбудову польскай дзяржавы ў межах 1772 года.[9] На экспансію, як вядома,

[7] Пол.: Centralny Komitet Narodowy.

[8] Пол. Tytus Filipowicz, H.Tennenbaum, T.Grużewski, Medard Downorowicz, Stanisław Thugutt, Marian Łempicki.

[9] У арыгінальнай версіі пытанне межаў з тактычных прычын не акцэнтавалася: Pobóg-Malinowski, 1953: 287.

быў настроены і Раман Дмоўскі, які заўсёды лічыў, што “чужога элементу” ў межы “ўласнай” дзяржавы варта ўключыць столькі, колькі можна лёгка паглынуць і асіміляваць (Tomaszewski, 1988: 102).

Занепакоены такой сітуацыяй М. Ромэр над канец траўня і ў чэрвені 1916 года напісаў дакладную запіску да аднаго з кіраўнікоў ВНК – прафесара У. Л. Яворскага (W. L. Jaworski). У лісце дастаткова крытычна ацаніў агульныя меркаванні польскіх палітыкаў датычна экспансіі Польшчы на ўсход – настолькі далёка, наколькі дазвалялі рэальныя ўмовы. На яго думку, такая палітыка мела б трагічны вынік для Польшчы з-за нямецкіх планаў на анексію і падобных імкненняў з боку Расіі. На яго думку, іх магло б нейтралізаваць толькі *“прызнанне гістарычнай Літвы ў якасці незалежнай цэласнасці”* (Litwa wobec wojny: 126–127). Тагачасная геапалітычная сітуацыя Польшчы прымушала выбіраць толькі адну з дарог – прызнанне і абвяшчэнне свету Вялікага Княства Літоўскага дзяржаўна-гістарычнай цэласнасцю. Рухаючыся ў гэтым накірунку, можна было б знайсці саюзнікаў сярод беларускіх і літоўскіх палітыкаў, пераканаць іх стварыць федэрацыю Літвы з Польшчай. Пасля гэтага была прапанавана ідэя буфернай, нейтральнай дзяржавы – гістарычнай Літвы з Курляндыяй. Такая дзяржава магла б аддзяліць Заходнюю Еўропу, а таксама Польшчу ад Расіі (Litwa wobec wojny: 127).

М. Ромэр спрабаваў давесці неабходнасць адбудовы ВКЛ, магчымы пазітыўны ўплыў такога сцэнару на перспектывы дзяржаўнасці Польшчы, пазначаў рэальныя магчымасці аднаўлення ВКЛ і зацікаўленыя ў ім палітычныя сілы. У якасці доказу, што прадстаўленыя намеры не былі “высмактаны з пальца”, да ліста быў далучаны Універсал канфедэрацыі ВКЛ, складзены ў Вільні ў снежні 1915 года, дзе вялося пра магчымасць адбудовы такой дзяржавы.[10] Менавіта ў гэты час, 8 траўня, М. Ромэр напісаў дастаткова вялікі, падрабязны тэкст на 29 машынапісных старонак, у якім падсумаваў усе асноўныя тэзы, высунутыя ў папярэдніх лістах, і накіраваў у ЦНК у Варшаве (Römer, Memoriał…: 702–731).

У студзені 1916 года ЦНК аб'ядноўваў радыкальныя сацыялістычныя сілы (Польская партыя сацыялістаў, Польская народная партыя “Вызваленне”, Саюз патрыётаў, Нацыянальны саюз працоўных), арыентаваныя на дасягненне польскай незалежнасці. Старшынёй камітэта быў Артур Слівінскі (Pobóg-Malinowski, 1991: 28). Чаму М. Ромэр звярнуўся менавіта ў гэты камітэт для падтрымкі і разумення? У запісцы ён сам адказвае на гэта пытанне і прызнаецца, што доўга думаў, ці варта гэта рабіць, улічваючы

[10] Універсал падпісалі: Юргіс Шауліс (Jurgis Šaulys), Ёнас Вілейшыс (Jonas Vileišis), Аўгусцінас Янулайціс (Augustinas Janulaitis), Антон Луцкевіч, Іван Луцкевіч, Дамінік Сямашка, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Заштаўт (Aleksander Zasztowt), Цэмак Шабад (Cemak Szabad), Разэнбаўм (Rozenbaum) (?) (Літоўскі дзяржаўны архіў, s. 383, Ap.7, B.56, L.53). Інфармацыю пра аўтараў прадставіў Чэславас Лаўрынавічус (Česlovas Laurinavičius).

тое, што ЦНК быў дастаткова слабай палітычнай сілай, хаця са скіраванай на аднаўленне незалежнасці Польшчы палітычнай пазіцыяй, што імпанавала аўтару тэзісаў. Такая пазіцыя адпавядала планам Ю. Пілсудскага, яна набывала ўсё больш прыхільнікаў у польскім грамадстве і, безумоўна, мела перспектыву (Römer, Memoriał…: 719–720). Таму ў сваім мемарыяле М. Ромэр прапанаваў ЦНК звярнуцца да Літвы і прапанаваць супрацу для вырашэння літоўскага пытання разам з польскім. На яго думку, такія захады не мелі дастатковага поспеху толькі ў выніку дзейнасці згаданага Інфармацыйнага бюро. Не дастаткова меці у Вільні структуры Польскай вайсковай арганізацыі, выніку можна дасягнуць толькі звяртаючыся да літоўскіх і польскіх палітыкаў Літвы як суб'ектаў, якія могуць дапамагчы зарыентавацца ў такім складаным, шматнацыянальным ды этнапалітызаваным рэгіёне. Не быў бы праблемай і дыялог з літоўскімі палякамі, якія падтрымліваюць ідэю з'яднання Польшчы і Літвы. Цяжэй было б дасягнуць кампрамісу пры вызначэнні формы такога саюзу. Паразуменне ў любым выпадку (ці гэта быў бы саюз, ці федэрацыя, ці аўтаномія ў аднанацыянальнай дзяржаве) павінна было прадугледжваць, што Літва з'яўляецца дзяржаваю двух суб'ектаў (Літвы і Беларусі), ці нават шматсуб'ектнай – этнаграфічная Літва, Літоўская Русь і Беларусь (Römer, Memoriał…: 706, 721–722).

Яшчэ цяжэй было б дасягнуць агульнай пазіцыі ў справе з'яднання Літвы і Польшчы з літоўскімі палітыкамі, якія імкнуцца да самастойнай дзяржавы ці да саюзу этнаграфічнай Літвы і Латвіі, а таксама асцерагаюцца анэксіі з боку Польшчы (Römer, Memoriał…: 710). Аднак Ромэр просіць ЦНК не абмінуць літоўцаў, бо апошнія ўжо саспелі як нацыя і ведаюць, што геапалітычнае становішча дыктуе ім толькі тры варыянты на выбар: Расія, Германія ці Польшча (Römer, Memoriał…: 712). Жадаючы развеяць сумненні палітыкаў ЦНК адносна перспектываў такога дыялогу, ён узгадвае, што літоўскія дэмакраты (LPD) у сваёй аснове не супраць саюзу з Польшчай, асобныя прадстаўнікі ж нават не выступілі б супраць анексіі для надання літоўскаму пытанню міжнароднага характару. М. Ромэр падкрэсліваў, што нават сярод нацыяналістаў ёсць такія, хто безумоўна знойдзе паразуменне з палякамі, калі давядзецца выбіраць паміж польскай, расійскай ці нямецкай анексіяй (Römer, Memoriał…: 714).

З іншага боку, ён заўважыў, што ў гэтым напрамку іх штурхае і "справа Вільні": *"Найбольш жа спрэчным заўсёды было пытанне Літоўскай Русі з Вільняй, на якую прэтэндуюць як літоўцы, так і палякі, і беларусы…"*. Што да беларусаў, то яны разглядаліся як партнёры ў стварэнні новага звязу Літвы і Польшчы: *"Хаця беларускі рух з'яўляецца слабым і да гэтага часу не мае масавага характару, аднак лічым, што пры такім звароце да Літвы нявартa абмінаць і існуючыя нацыянальныя беларускія арганізацыі, тым больш прадстаўнікі гэтага руху знаходзяцца вельмі далёка ад масквафільства і падтрымліваюць усё, што магло б адарваць іх край ад Расіі, не разлічваюць, падаецца, зусім*

*на ўласную дзяржаву, немагчымасць якой выглядае занадта відавочнай. Варта памятаць, што беларускі рух, хаця і не масавы, тым не менш мае сялянскі характар і не з'яўляецца, такім чынам, выключна інтрыгай інтэлігенцыі. Наадварот, яму не хапае сілаў інтэлігенцыі, а сваю апору ён знаходзіць пераважна ў вясковай напаўінтэлігенцыі і там захоўвае свой пэўны мясцовы агмень"* (Römer, Memoriał…: 714–715).

Такім чынам, М. Ромэр намагаўся пераканаць ЦНК, што літоўцы чакаюць і варта толькі звярнуцца да іх з канкрэтнымі прапановамі. У сваіх заўвагах ён зноў падкрэсліў геапалітычнае значэнне для Польшчы і яе дзяржаўнасці саюзу ці іншай повязі з Літвой, бо: *"землі літоўска-рускія з'яўляюцца для Расіі ключом для валодання Польшчай, як Польшча з'яўляецца ключом для далейшай экспансіі ў славянскім свеце і адтуль далей у Еўропу"* (Römer, Memoriał…: 707).

Доказам карысці адарвання Літвы ад Расіі М. Ромэр нават прысвяціў некалькі старонак запіскі. Відавочна, не толькі з тактычных прычын так пісаў, хіба, усё ж такі сумняваўся ў жыццяздольнасці гістарычнай Літвы, магчымасці яе існавання як незалежнай дзяржавы: *"Літва з'яўляецца краем выбітнай індывідуальнасці, адрознай ад Польшчы, краем, у якім палітычнае прымірэнне не можа быць вырашана метадамі, прышчэпленымі з Польшчы…"* (Römer, Memoriał…: 728–729). Таму ў запісцы ён чарговы раз выказваўся за раўнапраўны саюз вольных, дэмакратычных дзяржаў (былі ўзгаданы таксама Латвія, а пасля Украіна), за саюз з Польшчай. Лічыў, што ў найгоршым выпадку больш прыймальным была б анексія з боку Польшчы, чым Расіі (Litwa wobec wojny: 127), але падкрэсліваў, што гэта значна б ускладніла праблему з'яднання дзяржаў Літвы і Польшчы. Не зробім памылкі, калі прыйдзем да высновы, што такімі заўвагамі і ацэнкамі М. Ромер надаў новае значэнне канцэпцыі дзяржаўнасці Літвы: ён прадэманстраваў і падкрэсліў яе вагу для забеспячэння палітычнай стабільнасці ў рэгіёне.

Аднак паслядоўная візія, прапанаваная ў запісцы, не была папулярная сярод польскіх палітыкаў і выклікала супраціўленне. На старонках ужо згаданых вышэй "Wiadomości Polskich" (№74, 1 траўня 1916 года) быў надрукаваны артыкул з Вільні. Аўтар артыкула Вацлаў Студніцкі (Wacław Studnicki) назваў Універсал Канфедэрацыі ВКЛ М. Ромэра *"палітычнай інтрыгай"* і зазначыў, што літоўскія палякі *"перш за ўсё жадаюць быць з Польшчай"* (Sukiennicki, 1974: 73).

Пазнейшыя падзеі паказалі, што гэта былі першыя прыкметы немагчымасці рэалізацыі канцэпцыі М. Ромэра, а таксама яго паразу як палітыка. Ужо ў 1916 годзе ў Вільні адбылося размежаванне палітычных сіл. Заснаваны на пачатку вайны 23 верасня 1915 года шматнацыянальны (хаця дамінавалі ў ім палякі) Нацыянальны камітэт падзяліўся на нацыянальныя камітэты. Адзін з іх – польскі арганізацыйны камітэт у Вільні – 3 лістапада ад імя ўсіх палякаў Літвы і Беларусі ў якасці адзінага і найважнейшага

пастулата задэклараваў жаданне агульнай дзяржаўнасці з Польшчай (Sukiennicki, 1974: 73). Падобныя запэўніванні гэты самы камітэт высылаў адміністратыўнай Радзе ў Варшаве, заснаванай у 1917 годзе немцамі (Sukiennicki, 1974: 73–74). У слынным мемарыяле, падпісаным 44 прадстаўнікамі розных польскіх палітычных груп Літвы ад 24 траўня 1917 года, які быў адрасаваны камандаванню Обер-Оста ў Вільні, а таксама канцлеру Рэйха Тэабальду фон Бэтману-Гольвегу (Theobald von Bethmann-Hollweg), таксама размова ішла пра надзеі дзяржаўнай лучнасці з Польшчай (Memoriał, 1974: 81, 84–85).

Яшчэ больш выразна, ужо як праграма дзеянняў, гэтыя самыя жаданні былі прадстаўлены ў мемарыяле Уладзіслава Завадскага ад 7 лістапада 1917 года, які быў адрасаваны "актыўным палітычным элементам Варшавы". У дакуменце адкідвалася ідэя цэласнасці зямель ВКЛ, якая адстойвалася да гэтага, і прадстаўлялася ідэя падзелу. Тагачасны віцэпрэзідэнт Польскага камітэта ў Вільні, а таксама кіраўнік таемнага Звязку незалежнасці (Związek Niepodległości) ў Вільні У. Завадскі (W. Zawadzki), крытыкуючы толькі што заснаваную літоўцамі Раду краю (Krašto Taryba) і яе жаданне палітычнай самастойнасці (гэта значыць дзяржаўнасці Літвы без звязу з Польшчай), прапанаваў Вільню і Віленскую акругу, якая ахоплівала землі амаль да Нявяжы (літ. Nevėžis), далучыць да Польшчы. Ён спадзяваўся, што такім чынам удалося б схіліць літоўцаў да федэратыўнага звязу з Польшчай (Sukiennicki, 1974: 72).

Літоўскія палітыкі не засталіся ў даўгу ў польскіх палітыкаў Літвы. У перыяд з 28 лютага па 5 сакавіка 1916 года падчас Канферэнцыі літоўскіх палітычных дзеячаў у Брне яны выказаліся за Літву, не звязаную ніякімі сувязямі з Польшчай. Пры акрэсленні межаў такой дзяржавы Беларусь мусіла быць падзеленай на дзве часткі. Думка пра поўную незалежнасць Літвы была падкрэсленая на першай канферэнцыі ў Гаазе (25–30 красавіка 1916 года), на першай (31 траўня – 4 чэрвеня 1916 года) і другой (30 чэрвеня – 4 ліпеня 1916 года) канферэнцыях у Лазане (Žepkaitė, 1980: 24), а таксама ў *"Мемарандуме пра аднаўленне незалежнай Літвы"* (Lopata, 1996: 114), які быў уручаны ад імя Літоўскай нацыянальнай рады 11 студзеня 1917 года дыпламатам заходніх дзяржаў.

У 1916–1918 гадах польскіх палітыкаў перш за ўсё цікавіла адраджэнне польскай дзяржавы і па сутнасці толькі інтарэсы Польшчы. Хаця пасля падпісання пагаднення паміж Германіяй і Аўтра-Венгрыяй 5 лістапада 1916 года ў Варшаве яшчэ былі спробы стварыць канкрэтную праграму з мэтай вырашэння літоўскага пытання. У траўні 1917 года палітычныя дзеячы Варшавы, а таксама тыя, хто выказваўся за незалежнасць зямель ВКЛ і бараніў традыцыйныя повязі незалежнага ВКЛ з Польшчай, абвясцілі *"Дэкларацыю па пытанні Літвы".* Хаця гэта дэкларацыя вельмі выразна паказала адрозненні ў поглядах прадстаўнікоў двух вышэй узгаданых груп: адны былі гатовы да прыняцця і ўшанавання незалежнасці

Літвы без саюзу з Польшчай, іншыя ж выступілі за такі саюз.

На ідэю будучыні гістарычнай Літвы ўсё больш уплыў меў Р. Дмоўскі. Баронячы незалежнасць Польшчы, ён у сваім дакладзе, напісаным у сакавіку 1917 года да міністра замежных спраў Вялікабрытаніі Артура Бальфура, высунуў праект стварэння моцнай польскай дзяржавы, якая магла б стаць саюзнікам Еўропы супраць Германіі. Ён імкнуўся да таго, каб Польшчы акрамя іншых земляў перадалі Гродна, Вільню, Мінск і Валынь (Pobóg-Malinowski, 1953: 325. Dmowski, 1989: 219–222), бо тут глыбока ўкарэнена "польская цывілізацыя".

Гэта значыла падзел гістарычнай Літвы. Вышэйпазначаныя прынцыпы сталі праграмнымі пунктамі Нацыянальнага польскага камітэта, заснаванага 15 жніўня 1917 года ў Лазане, кіраўніком якога стаў Раман Дмоўскі. Пасля прадстаўлення В. Уільсанам 18 студзеня 1918 года 14-ці пунктаў будучага міру, сярод якіх пункт 13 пазначаў непазбежнасць стварэння пасля вайны незалежнай польскай дзяржавы, значэнне Камітэта значна ўзрасло – ён стаў прадстаўляць адроджаную Польшчу ў адносінах з дзяржавамі Захаду (Антанты). У студзені таго ж года французскія ўлады перадалі "пад апеку" камітэту ўсе польскія ваенныя, а таксама палітычныя справы (Pobóg-Malinowski, 1953: 346). У ліпені і жніўні 1917 года немцы распусцілі легіёны, а іх камандзіра Ю. Пілсудскага арыштавалі і пасадзілі ў крэпасць Магдэбурга. Гэта яшчэ больш узняло аўтарытэт эндэцыі і Р. Дмоўскага, які быў супраць усякіх саюзаў і федэрацый і прасоўваў праграму інкарпарацыі "крэсаў".

Пасля мірных перамоваў паміж Германіяй і Расіяй, якія адбыліся 3 сакавіка 1918 года ў Берасці, вырашэнне пытання дзяржаўнасці Літвы станавілася яшчэ больш праблематычным – паўстала пагроза, што Літва стане толькі прыладай польскай палітыкі ў балтыйскіх краінах. Акрамя таго, Літоўская дзяржаўная рада ці "Тарыба" ("Taryba"), якую з верасня 1917 года ўзначальваў Антанас Смятона, фармавала ідэю паўстання нацыянальнай літоўскай дзяржавы, якая супярэчыла канцэпцыі гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі). Паплечнікі М. Ромэра – віленскія польскія дэмакраты – у 1916 годзе заснавалі Дэмакратычную партыю, а ў 1918 годзе, як і ў міжваенны час, вагаліся паміж нацыяналізмам і "краёвасцю". Некаторыя з іх – Вітольд Абрамовіч, Ян Пілсудскі – мелі варожы настрой і былі прыхільнікамі аддзялення ад этнаграфічнай Літвы. На іх думку, каталіцкай польска-беларускай Літве з Вільняй належала далучыцца да Польшчы. Астатнія – Людвік Хамінскі, Зыгмунт Юндзвіл – баранілі федэратыўныя сувязі Літвы і Польшчы (Römer, t. 25: 166), хаця не былі рэальнай сфармаванай палітычнай сілай.

У такой сітуацыі канцэпцыя М. Ромэра патрапіла ў палітычную пустэчу. 18 ліпеня 1918 года ён у сваім дзённіку пазначыў: "... *Шукаў вырашэння незалежнасці Літвы на прынцыпах сувязі з Польшчай, хаця ведаю, што Польшча гэту сувязь прагне рэалізаваць у анексіі і што ў Польшчы ў адносінах да Літвы*

*толькі квітнеюць усяпольскія ідэалы. Хацеў вылучыць нешта штучнае, што б не было ні польскім, ні літоўскім, не было б ні вольнасцю ні няволяй, не адпавядала ніякім жыццёвым працэсам, а толькі майстэрскай фікцыяй, прадуктам рэзанёрства. Інстынктыўна адчуваў фальш гэтай дарогі, але не меў адвагі парваць з кірункам, з якім звязаўся ў легіёнах. Шукаў апраўдання і хоць якой бы штучнай падставы. Цалкам страціў компас маёй літоўскай думкі. Не тут і не зараз мне гэта выпраўляць. Дасць бог, вярнуся да Літвы, і ў ёй адновіцца мая грамадзянская сіла...”* (Römer, t. 25: 166).

**Літаратура**


1. Bardach, Juliusz (1988). *O dawnej i niedawnej Litwie,* Poznań.
2. Dmowski, Roman (1989). *Polityka polska i odbudowanie państwa, t. 2.* Warszawa.
3. L.A. (Ludwik Abramowicz). „Michał Römer“, *Przegląd Wileński,* 17 lipca, 1927, Nr. 12.
4. Legionowe inicjatywy M.Römera w sprawie Litwy z 1916 r. opracował Zbigniew Solak (1997). *Krakowski Rocznik Archiwalny,* t. 3: 136–168.
5. Litwa wobec wojny (Poufny memoriał Michała Römera z sierpnia 1915) (1970). *Zeszyty Historyczne,* zesz. 17. Paryż: 60–127.
6. Lopata, Raimundas (1996). *Lietuvos valstybingumo raida 1914–1918 metais. (Lietuvių atgimimo istorijos studijos,* t. 9). Vilnius.
7. Memoriał w sprawie litewskiej złożony przez prof. Władysława Zawadzkiego 7.11.1917 (1974). *Zeszyty Historyczne,* zesz. 30. Paryż: 81–85.
8. Ochmański, Jerzy (1968), Kulisy wyprawy wileńskiej Piłsudskiego 1919 r. *Z dziejów stosunkow polsko-radzieckich,* t. 3. Warszawa.
9. Pobóg-Malinowski, Władysław (1953). *Najnowsza historia polityczna Polski 1864–1945,* t. 1. Paryż.
10. Römer Michał, “Germanofilstwo” Litwy (Obserwacje z tamtej i tej strony linii bojowej). Archiw Państwowy w Krakowie (dalej cyt. – APKr.), NKN–142, 1. 381–396.
11. Römer Michał, Dziennik, t. 1, Dział Rękopisów Biblioteki Litewskiej Akademii Nauk (dalej cyt:. DR BAN), F. 138–2228, t. 2, DR BAN, F. 138–2229, t. 3, DR BAN, F. 138–2231, t. 4, DR BAN, F. 138–2231, t. 11, DR BAN, F. 138–2237, t. 25, DR BAN, F. 138–2251.
12. Römer Michał, Memoryał w sprawie litewskiej. – APKr., NKN–142, 1. 706–722.
13. Römer Michał, Notatki w sprawie utworzenia Kompanii Litewskiej w legionach polskich. – APKr., NKN–142, 1. 685–686.
14. Römeris, Mykolas ir Pilsudskis, Juozas (1991). *Lietuvių atgimimo istorijos studijos,* t. 3, Vilnius.
15. Solak, Zbigniew (1994). Krakowskie obchody rocznicy powstania legionów polskich w Dziennikach Michała Römera. *Rocznik Krakowski,* t. LX.
16. Sukiennicki, Wiktor (1974). Memoriał o sprawie litewskiej złożony przez Władysława Zawadzkiego w Warszawie w listopadzie 1917. Artykuł wstępny. *Zeszyty Historyczne,* №30. Paryż.
17. Tomaszewski, Janusz (1988). Kresy Wshodnie w polskiej myśli politycznej XIX i XX, w. *Polska myśl polityczna XIX i XX wieku,* t. VI. Wrocław.
18. Žepkaitė, Regina (1980). *Diplomatija imperializmo tarnyboje.* Vilnius.